**Гродна**
№ 10 (421),
17 мая 2015

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# “Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць”

**(Мц 5, 8)**




Супольны здымак на заканчэнне Дзён моладзі ў Смаргоні

**Ад 1 па 3 мая ў Смаргоні адбыліся XXII Дыяцэзіяльныя дні моладзі. У гэты час горад выглядаў не так, як звычайна, паколькі ў парафіі св. Міхала Арханёла сабралася каля двух тысяч маладых людзей з Гродзенскай дыяцэзіі і з-за яе межаў, якія прыбылі сюды, каб супольна праслаўляць Бога малітвай, спевам і танцам, разважаючы над дарам чыстага сэрца.**

• працяг на с. 4

## Каляндар падзей

*23 мая*
XXIV гадавіна біскупскіх пасвячэнняў кс. б-па Аляксандра Кашкевіча.
Молімся за пастара дыяцэзіі.

*24 мая*
урачыстасць Паслання Святога Духа.
За адгаворванне ў гэты дзень гімна “Прыйдзі, Стварыцель Дух Святы” можна атрымаць поўны адпуст.

*25 мая*
свята НПМ Маці Касцёла.
Другі дзень Зялёных свят.

*31 мая*
урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы.
Заканчэнне маёвага набажэнства.

## Запрашаем!

*Праграмы каталіцкай рэдакцыі:*

*“Голас Евангелля”*
Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.
**Кожную нядзелю ў 8.00** запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.
**Гродна 103,0 FM**
**Свіслач 105,9 FM**

*“Сімвал веры”*
Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2”
**25 мая ў панядзелак у 18.05**
пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.

## Інтэрнэт-апытанне www.grodnensis.by

*Ці прынялі Вы сакрамант канфірмацыі?*

- так
- не
- рыхтуюся
- не, я яшчэ не дасягнуў(ла) патрэбнага ўзросту
- цяжка сказаць


**Выкажыся**

**“Езус указвае нам шлях, каб Яго наследаваць, – шлях любові” – папа Францішак**




## VII ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 17, 11б–19**

Езус узняў вочы свае да неба і маліўся такімі словамі: "Ойча святы, захавай іх у імені Тваім, якое Ты даў Мне, каб яны былі адно, як і Мы. Калі Я быў з імі, Я захоўваў іх у імені Тваім, якое Ты даў Мне. Я збярог, і ніхто з іх не загінуў, апроч сына пагібелі, каб збылося Пісанне.

А цяпер іду да Цябе і кажу гэта ў свеце, каб яны мелі ў сабе поўную Маю радасць. Я даў ім слова Тваё, і свет узненавідзеў іх, бо яны не са свету, як і Я не са свету. Не прашу, каб Ты ўзяў іх са свету, але каб захаваў іх ад злога. Яны не са свету, як і Я не са свету. Асвяці іх у праўдзе. Слова Тваё – гэта праўда. Як Ты паслаў Мяне ў свет, так і Я паслаў іх у свет. І за іх Я пасвячаю сябе, каб і яны былі асвечаны ў праўдзе".

## ПРАЎДА ПЕРАМОГІ

Так шмат можна змясціць у некалькіх словах! І час Апошняй Вячэры, і падзеі, якія адбыліся пазней, патрабавалі гэтага. Пан Езус падчас зямнога жыцця апошні раз сустракаўся са сваімі вучнямі. У гэты самы вечар Яго павінны былі арыштаваць. Распачынаўся фінал Яго збаўчай місіі: мука і смерць. Апосталы ўбачаць Яго ў вячэрніку праз некалькі дзён ужо ўваскрослага – ва ўслаўленым целе. Евангеліст Ян запісаў словы малітвы Пана Езуса за сваіх вучняў. Ён усведамляў небяспеку, якая ім пагражала, нянавісць свету да Евангелля, што яны абвяшчалі, праследаванне Касцёла. Ён пра ўсё гэта ведаў. І таму прасіў у Бога для сваіх самых блізкіх вучняў найважнейшых рэчаў: каб яны былі захаваны ад злога і каб былі "асвечаны ў праўдзе".

Наш поспех як вучняў Хрыста гарантаваны. Бог Айцец не мог не выслухаць просьбаў свайго Сына: Ён захоўвае нас ад злога і асвячае ў праўдзе. Абы толькі мы захацелі пазнаць гэтую праўду і застацца каля Бога!

## СПАСЛАННЕ СВЯТОГА ДУХА

**Ян 20, 19–23**

Калі быў вечар таго першага дня тыдня, і дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя ад страху перад юдэямі, прыйшоў Езус і стаў пасярэдзіне, і сказаў ім: "Спакой вам!" І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і бок. Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана. Тады Езус зноў сказаў ім: "Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю вас". І, сказаўшы гэта, дыхнуў, і кажа: "Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца".

## МОЦНЫЯ СВЯТЫМ ДУХАМ

Урачыстасць Спаслання Святога Духа заахвочвае нас задумацца над прысутнасцю гэтага Духа ў Хрыстовым Касцёле. Ён заўсёды з ім. Ён з самага пачатку эфектыўна дзейнічае. Пачынаючы ад золку гісторыі абвяшчэння Евангелля Апосталамі. Так, як мы ніколі не звяртаем увагі на паветра, хоць яно неабходна нам для жыцця, так і Святы Дух застаецца непрыкметны, далікатны, але заўсёды неабходны, каб Касцёл мог дзейнічаць і выконваць у свеце сваю збаўчую місію.

А ў чым яна заключаецца, прыгадвае сённяшні фрагмент Евангелля: Апосталы разам са Святым Духам атрымалі заданне адпускаць грахі, а значыць, указанне весці ў свеце барацьбу са злом і яго вынікамі. Як Касцёл выконвае сваю місію? Ці сёння вакол нас менш зла, чым яго было вакол Апосталаў? Гэтае пытанне вышэй за нашыя магчымасці. Але бясспрэчна адно: дзякуючы перамозе Хрыста над смерцю, дзякуючы той першай сустрэчы ў вячэрніку, а затым, праз 50 дзён пасля яе, спасланню на Касцёл Святога Духа, у нашым распараджэнні ёсць усё, што неабходна для эфектыўнай барацьбы са злом, якое спрабуе нас ахінуць. Мы можам не толькі змагацца са злом, але і перамагаць! Дастаткова ўсведамляць тое, што ў нас ёсць магутны саюзнік, і пачаць супрацоўнічаць з Ім. Ён нават нашыя паражэнні і памылкі можа перамяніць у перамогу.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Хто моліцца: Ты ці Бог у Табе?

**СЛОВА РЭДАКТАРА**
*Кс. Павел Салабуда*

Пра малітву напісана даволі шмат тэкстаў, але на самой справе ніадзін з іх не можа да канца апісаць сапраўдную малітву, яе сэнс і досвед адкрыцця Бога нанова. Прапаную яшчэ адну спробу, можа, і няўдалую, задумацца аб малітве ў маім сённяшнім рэдактарскім разважанні.

Для многіх з нас малітва можа стаць ключом да зусім іншага падыходу да жыцця. У гутарках з людзьмі, якія моляцца вельмі шмат, можна на самой справе заўважыць іншы падыход да жыцця, у адрозненне ад тых, хто забывае аб малітоўных размовах з Богам. Людзі малітвы адчуваюць у сваім жыцці вялікую прысутнасць Бога, які надае сэнс індывідуальнаму вопыту чалавечага жыцця. У цэнтры малітоўнага жыцця чалавека знаходзіцца душа, якая становіцца перспектывай змянення жыцця да лепшага. Прыгожа на гэтую тэму кажа святы Ян Марыя Віянэй: "Дзеці мае, ваша сэрца маленькае, але малітва пашырае яго і робіць здольным любіць Бога. Малітва – гэта прадчуванне нябёсаў, як бы сыходжанне ў райскае шчасце. Яна заўсёды напаўняе нас асаладай, яна з'яўляецца мёдам, які сцякае ў душу і робіць усё салодкім. У момант шчырай малітвы смутак знікае, як снег пад сонцам". Езус вучыў Апосталаў маліцца так, каб змяніць сваё жыццё. Апостал Павел у сваім Пасланні да Эфесцаў прапаноўвае кожнаму з нас маліцца такім чынам, каб "аднавіць мысленне духам". Дзякуючы такому перамяненню, кожны з нас мае магчымасць убачыць сваё жыццё па-сапраўднаму, мудра і глыбока. Прысутнасць Бога заўсёды дае нам перспектыву на лепшае жыццё.

У малітве мы, перш за ўсё, павінны дазволіць Богу змяніць нас. Мы заўсёды можам быць лепшымі, а працуючы над сабой, мы сябе асвячаем. Гэта менавіта Бог дапамагае нам даведацца, чаго нам на самой справе не хапае. З ласкі Божай, экран, на якім адлюстроўваецца нашае жыццё, пашыраецца, але гэта патрабуе часу. У малітве размова ідзе не аб тым, каб чалавек змяніў самога Бога, а аб тым, каб ён дазволіў Богу змяніць сваё людское жыццё. Навука малітвы – гэта штодзённая праца, якая заключаецца ў тым, каб нашае сэрца напоўнілася. Часцей за ўсё, калі мы пачынаем маліцца, наш розум запоўнены рознымі паўсядзённымі справамі і абавязкамі, якія перашкаджаюць нам адкрыць сябе для Бога. Розум павінен быць вызвалены на малітве, і толькі тады сэрца будзе напоўнена. Сапраўдная малітва заўсёды будзе пачута. І калі Ты можаш ахвяраваць сваё жыццё Хрысту, значыць Твая малітва ўжо выслухана. "Жыццё вашае схавана з Хрыстом у Богу! Калі ж з'явіцца Хрыстос, жыццё вашае, тады і вы з'явіцеся з Ім у хвале" (Клс 3, 3–4). Ці, можа быць, мы павінны сказаць: "Lex orandi est lex vivendi" – "Закон малітвы – гэта закон жыцця"?

Такім чынам, наша малітва павінна прыняць такую форму, якая можа змяніць нас знутры. Плады малітвы заўсёды будуць прыкметныя. Падчас малітвы мы знаходзім самога Бога, які прыходзіць да нас, каб змяніць наша жыццё. Можна сказаць, што да кожнага з нас прыходзіць Бог, апрануты ў нашае жыццё. Шчырае жаданне волі Бога на самой справе з'яўляецца сапраўднай воляй Бога. Менавіта на гэтым этапе Бог пераможа, а Твая малітва была выслухана.

## ДЭКАНАТ ІЎЕ

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*



*Знешні выгляд святыні*


*Фігура Хрыста Адкупіцеля, усталяваная побач з касцёлам*

Як сведчаць гістарычныя дакументы, касцёл пад тытулам святых апосталаў Пятра і Паўла быў заснаваны каля 1495 г. троцкім ваяводам і маршалкам ВКЛ Пятром Яновічам. Аднак з-за раптоўнай смерці ён не паспеў дакументальна аформіць будаўніцтва, што было зроблена ўжо ў 1499 г. яго сынам Янам Пятровічам. Пры касцёле ў драўляным будынку ўжо ў той час жылі 4 манахі францішканцы, але, верагодна, яны не мелі статусу кляштара, а толькі місіі. Пабудавалі святыню ў цэнтры паселішча, на ўзвышэнні (звесткі, што гэта старажытнае замчышча, не пацвердзіліся).

У тыя часы Петрапаўлаўскі касцёл (хоць ёсць звесткі, што канчаткова ён не быў дабудаваны) уяўляў сабою велічны (у параўнанні з касцёламі ў Ішкалдзі і Усялюбе) храм у гатычным стылі, арыентаваны алтаром на ўсход. Прамавугольны ў плане аб'ём святыні з пяцігранной апсідай, сцены якой былі зроблены ў тэхніцы гатычнай муроўкі, па перыметры быў умацаваны контрфорсамі. Інтэр'ер асвятлялі гатычныя спічастыя вокны. Сакрыстыя была адна і далучалася да паўночнага фасада. У першай палове XVI ст. пры касцёле дзейнічала альтарыя.

Пасля сярэдзіны XVI ст. касцёл быў перароблены пад арыянскі храм (потым пад кальвінскі збор), тады Іўе лічылася цэнтрам арыянства. Але ў 1606 г., дзякуючы намаганням Станіслава Кішкі, ваяводы віцебскага, святыня была вернута каталіцкаму Касцёлу. Касцёльная традыцыя ў 1930-я гг. лічыла за дату пабудовы святыні 1563 г., аднак, магчыма, гэта яшчэ адна дата вяртання святыні, паколькі да Кішкаў Іўе адышло ў 1558 г.

У 1631 г. ваявода мсціслаўскі і віцебскі, падскарбій літоўскі, Мікалай Кішка, наступны ўласнік мястэчка і сын Станіслава Кішкі, звярнуўся да адміністратара Віленскай дыяцэзіі біскупа Тышкевіча, каб заснаваць пры касцёле кляштар бернардынаў (спачатку планаваў размясціць дамініканцаў). Атрымаўшы дазвол, Кішка падпісаў 10 студзеня 1633 г. фундацыю і пачаў будаваць для манахаў двухпавярховы брацкі корпус. Касцёл быў кансэкраваны ў 1781 г. віленскім біскупам Тамашам Зяньковічам. На знакамітай карце Літоўскай правінцыі ордэна бернардынаў, выкананай гравёрам Гершкам Ляйбовічам у сярэдзіне XVIII ст., Петрапаўлаўскі касцёл паказаны як трохнававая базіліка, што, хутчэй за ўсё, недакладнасць. А вось барокавыя франтоны на тарцах кляштарнага корпуса, верагодна, былі на самой справе.

Комплекс кляштара бернардынаў дабудоўваўся і рэканструяваўся і ў другой палове XVII ст., і ў XVIII ст. У выніку, на пачатку XIX ст. гатычнымі ў касцёле заставаліся толькі апсіда і пара контрфорсаў на паўднёвым фасадзе. У астатнім святыня цалкам адпавядала стылю барока – атынкаваныя фасады дэкараваны слаістымі пілястрамі, прарэзаныя арачнымі вокнамі. Над галоўным фасадам узнесліся дзве стромкія чацверыковыя трох'ярусныя тэлескапічныя вежы-званіцы пад фігурнымі барокавымі купаламі, фланкуючы крывалінейны барокавы франтон. Малітоўная зала святыні накрыта двухсхільным бляшаным дахам, паніжаны прэзбітэрый – вальмавым дахам пад стромкай сігнатуркай.

● працяг у наступным нумары

# Да Маці Божай са спевам і малітвай


У Дзень маці вялікая колькасць пілігрымаў прыходзіць у санктуарый Маці Божай Яснагорскай у Капцёўцы

***Як кожны год, незабыўным вялікім перажываннем, поўным узрушэння і радасці, стала для пілігрымаў з Гродна дарога ў санктуарый Маці Божай на Узгорку надзеі ў Капцёўцы. З нагоды Дня маці, які ў Гродзенскай дыяцэзіі адзначаецца ў першую нядзелю мая, мамы разам са сваімі дзецьмі і мужамі прыбылі ў гэтае сапраўды святое месца, каб даверыць Маці Божай, Цярпліва Слухаючай, свае просьбы, скласці падзякі і папрасіць аб заступніцтве.***

Ужо традыцыйна ў цэлай дыяцэзіі ў Дзень маці вернікі моляцца ў інтэнцыі тых, хто дае жыццё. 3 мая галоўная ўрачыстасць з гэтай нагоды адбылася ў санктуарыі Маці Божай на Узгорку надзеі ў Капцёўцы. Пілігрымы з Гродна прыбылі сюды са спевам і малітвай, бо менавіта на Маці Божую яны ўскладаюць сваю веру, надзею і любоў. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел таксама кс. бп Аляксандр Кашкевіч і кс. бп Юзаф Станеўскі.

Для сабраных вернікаў кс. Юрый Марціновіч прамовіў канферэнцыю на тэму “Езус прыйшоў, каб заклікаць грэшнікаў да навяртання”.

*“Навяртанне – гэта працэс, які працягваецца з моманту хросту ажно да смерці, таму трэба штодзённа вяртацца да вытокаў,* – казаў падчас канферэнцыі кс. Юрый. – *У кожнага ёсць сваё асабістае адхланне, з якога павінна быць вызвалена душа”.*

Душпастар таксама падкрэсліў, што важна прыняць Божы план, зразумець, што *“Бог мяне любіць і ведае, што для мяне добра”.*

У сваю чаргу кс. Раман Катлімоўскі, прамаўляючы гамілію, адзначыў, што сёння мы чуем словы Езуса: “Без Мяне вы нічога не можаце зрабіць”, але адначасова вельмі часта прыпісваем сабе многія рэчы, забываючыся, што ўсё гэта адбываецца дзякуючы ўздзеянню Божага Духа.

*“Вы вельмі патрэбны Езусу і сваім сем’ям. Гэта таямніца вашага цудоўнага паклікання, і сёння мы дзякуем за вашу мацярынскую паставу”,* – сказаў кс. Раман і заахвоціў падтрымліваць добрую традыцыю і цалаваць мамам рукі, бо кожная з іх гэтага заслугоўвае.

Падчас св. Імшы, якая цэлебравалася ў інтэнцыі жывых і памерлых маці, кс. бп Аляксандр Кашкевіч падзякаваў мамам за цудоўны прыклад веры, які яны даюць сваім дзецям і членам сям’і, дадаючы, што без сям’і грамадства не будзе мець добрай будучыні.

# Мама як прыклад веры

Любоў і радасць, з якой нашыя маці прынялі нас і чувалі над нашымі першымі крокамі ў свеце, з’яўляецца ў нейкай ступені знакамі сакраментальным працягам любові Бога, ад якога мы ўсе ўзялі пачатак. Мы былі прыняты Богам і нашымі бацькамі, і гэты вопыт з’яўляецца моцным фундаментам, які робіць магчымым узрастанне і развіццё чалавека, дапамагае нам сталець, імкнучыся да праўды і любові, а таксама адкрывацца, каб ствараць сувязь з іншымі людзьмі і з Богам. Веруючая сям’я, хоць напаткае найгоршыя цяжкасці, усё вытрымае. Бо Бог побач, Ён кожны дзень, кожную хвіліну і секунду дае нам усе ласкі, неабходныя для таго, каб узрастаць у святасці. Але часта кажуць, што гэта менавіта маці з’яўляецца тым фундаментам у сям’і, на якім усё трымаецца, у тым ліку і вера. Чаму? Бо гэта мамы ў першую чаргу клапоцяцца аб перадачы веры, вучаць сваіх дзяцей маліцца і моляцца разам з імі, рыхтуюць іх да прыняцця сакрамантаў, асвятляюць сямейнае жыццё святлом веры і вучаць усхваляць Бога як свайго Айца.

Прыгожыя словы на тэму ролі жанчын у перадачы веры прамовіў падчас адной св. Імшы папа Францішак.

*“Вера з’яўляецца Божым дарам, які дасягаецца не ў выніку інтэлектуальных высноў, а праз уздзеянне Святога Духа. А гэта прысутнічае, між іншым, у цярплівай працы мам, – падкрэсліў Святы Айцец. – Адбываецца так таму, што Тая, якая прынесла ў свет Езуса, таксама была жанчынай. Такой была дарога, выбраная Езусам. Ён хацеў мець маці, а таму і вера прыходзіць праз жанчын, як Езус праз Марыю”,* – працягнуў Папа.

Святы Айцец звярнуў увагу таксама на тое, што жанчыны павінны ўсведамляць свой абавязак перадачы веры. Бо калі не будзе іх клопату, каб нанова ажывіць Божы дар, якім з’яўляецца вера, тады вера слабне, разбаўляецца і нарэшце становіцца пэўнай культурай, у якой хоць і гаворыцца, што мы хрысціяне, але гэта застаецца толькі культурай.

*“Жанчыны ў Касцёле і на дарозе веры мелі і маюць сёння асаблівую ролю – адчыняць дзверы Пану, браць з Яго прыклад і перадаваць Яго аблічча, таму што позірку веры заўсёды неабходны просты і глыбокі позірк любові. Гэта ж галоўным чынам яны – мамы, бабулі – перадаюць сваю веру дзецям. Гэта місія жанчын (ці не так?) – даваць сведчанне сваім дзецям, унукам, што Езус жыве, што Ён Жывы і Уваскрослы. Маці і жанчыны, нясіце наперад гэтае сведчанне!”* – заахвоціў папа Францішак.

***Падрыхтавала Кінга Красіцкая***

СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Езус – вінаградная лаза, а праз Яго, так, як сокі з дрэва пранікаюць у галінкі, пранікае Божая любоў, Святы Дух. Мы ж – галінкі, што не могуць быць самадастатковымі, а поўнасцю залежаць ад вінаграднай лазы, крыніцы іх жыцця. Так і з намі, хрысціянамі. Прышчэпленыя праз хрост да Езуса, мы бясплатна атрымалі ад Яго дар жыцця; а дзякуючы Касцёлу мы можам заставацца ў жыватворнай еднасці з Хрыстом. Таму неабходна, каб мы былі верныя святому хросту і ўзрасталі ў цеснай сувязі з Богам праз малітву, слуханне Божага слова і паслушэнства яму, а таксама праз удзел у сакрамантах, асабліва ў Эўхарыстыі і сакраманце паяднання.*

*“Regina Coeli” са Святым Айцом, 03.05.2015*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Верталёт трымаецца ў паветры і можа ляцець дзякуючы таму, што яго вінт злучаны спецыяльнай гайкай з корпусам. Гэтую гайку называюць “гайкай жыцця” ці “Езусавай гайкай”. Такі слэнг з’явіўся ад таго, што калі гэтая гайка адкруціцца, то верталёт не зможа ўтрымацца ў паветры і каменем упадзе на зямлю. Таму не дзіўна, што пілоты праяўляюць да яе такую павагу і называюць іменем Збаўцы.*

*Мараль гэтага параўнання ў тым, што калі мы не злучаны з Езусам, то не будзем тымі, кім павінны быць, будзем падаць і не прынясём таго плёну, які павінны прынесці. Нам патрэбны Хрыстос, каб мы не рухнулі каменем уніз. Нам патрэбны Хрыстос, і мы павінны быць злучаны з Ім, каб быць сапраўднымі, а не штучнымі хрысціянамі і прыносіць плён свайго жыцця.*

*Фрагмент гаміліі падчас св. Імшы ў мінскім касцёле святых Сымона і Алены, 03.05.2015*




# Не ты выбіраеш Бога – Ён выбірае цябе



***Сёння сваю гісторыю распавядае ксёндз Пётр Вішнеўскі з Кангрэгацыі святога Арханёла Міхала.***

## Быў уважлівы на малітве

Ксёндз Пётр паходзіць з сям’і католікаў. Нарадзіўся ў польскім горадзе Брадніца – краіне ста азёр. Бацькі выхоўвалі чацвёра дзяцей: акрамя Пятра, яшчэ двух хлопчыкаў і дзяўчынку.

Дзеці раслі ў набожнай сям’і. Кожнае свята наведвалі разам з бацькамі касцёл.

*“Памятаю такі цікавы момант, – успамінае ксёндз Пётр. – Мама маленькім брала мяне ў касцёл. Перад св. Імшой я таксама пайшоў на Гадзінкі да Найсвяцейшай Панны Марыі. Я яшчэ тады нічога не разумеў і пытаўся ў мамы, калі ўжо будуць гадзінкі. Мне здавалася, што мы будзем маліцца цытуючы гэтую малітву (смяецца – заўв. аўт.). А Гадзінкі – гэта спяваная малітва”.*

## Замест семінарыі – на повара

Паступова ў хлопца паспявала жаданне служыць Богу. Але калі сын сказаў маці, што хоча стаць святаром, тая запярэчыла. Запэўніла, што ён сустрэне добрую дзяўчыну і ажэніцца з ёй.

Пасля 8 класа школы замест семінарыі хлопец пайшоў вучыцца на повара ў Гастранамічнае вучылішча ў Торуні.

*“Там шмат дзяўчат было: у нашай групе 29, а хлопцаў усяго 3. Гэта быў важкі аргумент”.*

Хутка малады чалавек скончыў вучылішча. Жаданне быць святаром не знікла. Але маці сказала, што сын павінен уладкавацца на працу, папрацаваць па прафесіі і толькі пасля можа ісці ў семінарыю.

*“Я атрымаў працу ў дзіцячым садку, але ўжо не ўладкоўваўся туды”.*

Ва ўзросце 18 гадоў малады чалавек паступіў у Ніжэйшую духоўную семінарыю ў Пяставе.

*“Мама пакінула на акне ключык, калі я раптам захачу вярнуцца...”*

## У чаканні Божага благаславення

А пайшоў хлопец далёка – за 700 кіламетраў ад дома ў ордэн міхалітаў. Уступіў там у навіцыят. Пасля быў год практыкі, калі ён працаваў як закрыстыянін. А затым паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Кракаў.

*“Сустрэў там некалькіх прафесараў, якія вучылі Яна Паўла II”.*

Пасля семінарыі непрацяглы час працаваў у Польшчы. Але хутка выказаў жаданне паехаць у Беларусь.

*“Напісаў заяву з просьбай. Разам са мной было яшчэ 5 ксяндзоў і 4 сястры. Але здарылася так, што мясцовыя ўлады зацвердзілі толькі маю заяву, а іншыя адхілілі”.*

У Беларусь ксёндз Пётр прыехаў як дыякан.

*“Яшчэ 10 гадоў я чакаў святарскіх пасвячэнняў”.*

## Манах і святар

У 2005 годзе адбылася гэтая доўгачаканая падзея. 11 чэрвеня – ва ўспамін святога Барнабы – ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч у касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах удзяліў ксяндзу Пятру святарскія пасвячэнні.

*“Я ўсё жыццё хацеў стаць святаром. Манахам і святаром. Гэтага не выбіраеш – адчуваеш сэрцам. Такія рэчы цяжка растлумачыць, можна толькі параўнаць з чымсьці. Святарскае пакліканне нечым падобна на заручыны, пазней – на шлюб. У Святым Пісанні сустракаем наступныя радкі: «Умілаваным заўсёды з’яўляецца Езус, умілаванай – чалавечая асоба»”.*


Падчас катэхезы для дзяцей

***Шчаслівы, ксёндз Пётр хутка адзначыць 10-годдзе свайго святарскага служэння.***

***Ангеліна Пакачайла***




◆ *У 2015 г. у Злучаных Штатах святарскія пасвячэнні прымуць 595 новых святароў, што больш чым на сто чалавек перавышае леташнюю колькасць. Гэта важная навіна для краіны, у якой кожная пятая парафія не мае сталага душпастара. Сярэдні ўзрост новых святароў складае 31 год – яны трохі маладзейшыя за пасвечаных у апошнія гады. Каля 70% будучых святароў паходзяць з сем'яў, што маюць свае карані ў Еўропе, галоўным чынам у Італіі і Ірландыі, 14% – выхадцы з Лацінскай Амерыкі, а 10% – з Азіі і ціхаакіянскіх астравоў.*

◆ *У Швейцарыі з рэзультатаў апытання, змешчанага ў падрыхтоўчым дакуменце („Lineamenta") XIV звычайнага пасяджэння Агульнага сінода біскупаў, вынікае, што для большасці вернікаў, якія прынялі ўдзел у апытанні, Святая Сям'я з'яўляецца прыкладам занадта далёкім ад іх асабістага жыццёвага вопыту. Швейцарскія католікі пераконваюць, што рэчаіснасць сям'і значна шырэйшая, чым яе прыклад, грунтуемы на сакрамэнтальным сужэнстве. Пры гэтым яны сцвярджаюць, што сакраментальнае сужэнства з'яўляецца сёння мадэллю меншасці. Таму, паводле анкетаваных, Касцёл павінен узмацніць свой удзел у падрыхтоўцы да сужэнства, спадарожнічаць кананічным сужэнствам, а таксама прымаць дзеянні на карысць сям'і.*

◆ *Пілігрымы і турысты, якія наведаюць Рым у Год міласэрнасці, змогуць пакаштаваць "юбілейнае" марожанае. Дэсерт будзе бела-жоўты, што прыгадвае колеры ватыканскага сцяга. Уласнік крамы, дзе можна будзе пакаштаваць марожанае, кажа, што для яго гэта не толькі бізнэс, паколькі на стварэнне такога дэсерту яго натхніў сам юбілейны год.*

◆ *Паводле апошніх статыстык, пададзеных у Кітаі, за 35 гадоў праводжання г.зв. палітыкі аднаго дзіцяці ў гэтай краіне забіта 360-400 мільёнаў ненароджаных дзяцей. Гэтыя лічбы падаў падчас слуханняў у Кангрэсе ЗША сляпы кітайскі дысідэнт, юрыст Чэнь Гуанчэн, які раней знаходзіўся пад арыштам у сваёй краіне за абнародаванне свайго рапарта на тэму масавых абортаў і стэрылізацый у вёсках на ўсходзе Кітая.*

◆ *У штогадовай справаздачы Амерыканскай федэральнай камісіі па справах рэлігійнай вольнасці ў свеце (USCIRF)ададзена 17 краін, дзе рэлігійная вольнасць знаходзіцца пад найбольшай пагрозай. Да іх належаць: Бірма, Кітай, Эрытрэя, Іран, Саудаўская Аравія, Судан, Туркменістан, Узбекістан, Цэнтральная Афрыканская Рэспубліка, Егіпет, Ірак, Нігерыя, Пакістан, Сірыя, Паўночная Карэя, Таджыкістан і В'етнам. Арганізацыя падае, што ёсць таксама краіны, дзе можна заўважыць небяспеку для рэлігійнай вольнасці, але яна не знаходзіцца на крытычным узроўні. Сярод такіх краін аказалася таксама Расія.*

*Katolik.ru; Gosc.pl; credo-ua.org; Niedziela.pl; sedmitza.ru*

***Кс. Ян Раманоўскі***

# "Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць" (Мц 5, 8)



*Моладзь падчас супольнай малітвы*

● працяг са с. 1

Усё распачалося ў пятніцу 1 мая, калі на чыгуначным вакзале ў Гродне сабралася моладзь з гродзенскіх і навакольных парафій, каб спецыяльна падрыхтаваным цягніком вырушыць у Смаргонь на чарговыя Дні моладзі Гродзенскай дыяцэзіі. Але яшчэ больш маладых людзей чакала на вакзале ў Лідзе, дзе цягнік затрымаўся, каб прыняць чарговых пасажыраў, якія накіроўваліся на гэтую вялікую і важную падзею ў жыцці гродзенскага Касцёла. Час падарожжа праляцеў вельмі хутка, і маладыя людзі аказаліся ў Смаргоні, дзе іх чакалі жыхары горада разам са сваімі душпастарамі. Цікава было назіраць за рэакцыяй многіх людзей, якія, здавалася, не былі ў курсе і не маглі зразумець, адкуль прыехала так шмат моладзі і якая мэта іх прыезду. Спачатку рассяленне ў людзей з добрым сэрцам, якія адчынілі дзверы сваіх дамоў і кватэр для такой вялікай колькасці моладзі. Затым супольная адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту на прыкасцёльным пляцы і супольная Эўхарыстыя на распачацце Дзён моладзі, якую ўзначаліў Яго Эксцэленцыя кс. бп Юзаф Станеўскі, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі, які таксама скіраваў да маладых вернікаў Божае слова. Важнай падзеяй першага дня гэтай сустрэчы была таксама канферэнцыя на тэму: "Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць" (Мц 5, 8), у якой была асаблівым чынам звернута ўвага на чысціню ўчынкаў, вачэй і мовы, а таксама на тое, што толькі той, хто мае чыстае сэрца, можа любіць Бога і іншага чалавека. Праграму працягнуў пагодны вечар і забавы, завяршэннем якіх была супольная малітва і пастарскае блаславенне, што ўдзяліў ксёндз біскуп Юзаф.

Другі дзень быў яшчэ больш інтэнсіўным. Спачатку ранішнія малітвы, затым тэматычныя катэхезы, якія датычылі чысціні ў жыцці кансэкраваных асоб, святароў, сужэнцаў, нарачоных, а таксама хлопцаў і дзяўчат. Пасля кожная група мела магчымасць прадставіць найважнейшыя пункты і праблемы, якія закранаіся падчас катэхез. Важнай падзеяй другога дня была Эўхарыстыя, якую ўзначаліў Яго Эксцэленцыя кс. абп Клаўдыа Гуджэроці, Апостальскі нунцый у Беларусі, разам з Яго Эксцэленцыяй кс. б-пам Аляксандрам Кашкевічам, ардынарыем Гродзенскай дыяцэзіі, і Яго Эксцэленцыяй кс. б-пам Юзафам Станеўскім. Прадстаўнік Святога Айца звярнуўся да моладзі з гаміліяй, у якой заахвоціў маладых людзей не саромецца і не баяцца сваёй прыналежнасці да Хрыста. Цікава таксама тое, што на канец св. Імшы моладзь пачала разам ускрыкваць, што чакае Папу ў нашай краіне, на што ксёндз арцыбіскуп адказаў, што Святы Айцец вельмі хоча наведаць Беларусь, а мы павінны яшчэ больш маліцца ў гэтай інтэнцыі.



*Падарунак для нунцыя ад маладых людзей*

У гэты дзень кожная парафіяльная група мела магчымасць прадставіцца, паказваючы важнасць чысціні сэрца ў жыцці кожнага чалавека. Чарговым пунктам быў канцэрт семінарыйнага гурта "AVE" і гурта моладзевага душпастарства "OPEN". Важнай падзеяй гэтага дня, як і ўсёй сустрэчы моладзі, была эўхарыстычная адарацыя, якую правяла моладзь з евангелічнага праекта "РЫБЫ", а таксама сакрамант споведзі. На вачах многіх маладых людзей можна было ўбачыць слёзы радасці ад сустрэчы з Хрыстом у сакраманце пакаяння. А кульмінацыяй дня стала далучэнне многіх удзельнікаў да РУХУ ЧЫСТЫХ СЭРЦАЎ, падчас чаго маладыя людзі абавязаліся захоўваць чысціню сваіх сэрцаў. Канцэрт гурта "CROSSWAY" з Пінскай дыяцэзіі стаў падсумаваннем чарговага дня.

У нядзелю, нягледзячы на холад і няпэўнае надвор'е, маладыя людзі сабраліся на супольнай Эўхарыстыі на заканчэнне Дзён моладзі. Святую Імшу ўзначаліў кс. Антоній Грэмза, душпастар моладзі і галоўны арганізатар гэтай сустрэчы. Пасля атрымання блаславення і разаслання адбылся канцэрт гурта "МІЛАСЦЬ" з парафіі Ліда-Фара. Пасля моладзь чакала супольная дарога на вакзал, цягнік, ад'езд дамоў і абяцанне сустрэцца на чарговых Дыяцэзіяльных днях моладзі. Нягледзячы на тое, што XXII сустрэча маладых людзей нашай дыяцэзіі стала ўжо гісторыяй, з вуснаў многіх хлопцаў і дзяўчат усё яшчэ можна было пачуць дэвіз гэтай сустрэчы: "Чыстыя сэрцы Богу прынесім. Сёння Табе іх даверыць хочам. Аздараві нашу душу і цела, каб усё жыццё да цябе прамянела".

**Так, гэта праўда, што "Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць" (Мц 5, 8)**

***Кс. Ян Раманоўскі***



***Аня Барысевіч***
*Душпастарства моладзі "OPEN", Гродна*

*Мне ўсё вельмі спадабалася. Я засталася пад вялікім уражаннем. Асабліва спадабалася тое, што кс. Антоній Грэмза дапамог нам стаць членамі Руху чыстых сэрцаў. Мы гэтага сапраўды доўга чакалі. Я ведаю мноства людзей, якія даўно прагнулі далучыцца да гэтага руху. Хацелася б адзначыць таксама высокі ўзровень арганізацыі ўсяго мерапрыемства, добразычлівыя адносіны людзей адзін да аднаго. У ДДМ я ўдзельнічаю другі раз. Сустрэча ў Смаргоні мне спадабалася больш, чым леташняя ў маім родным Гродне.*



***Наташа Катушонак***
*Парафія св. Францішка Ксаверыя, Гродна*

*Я ўжо трэці раз удзельнічаю ў Дыяцэзіяльных днях моладзі. Мне вельмі падабаецца. Добра, калі на Дні моладзі едзеш у іншы горад, а не калі яны праходзяць у тваёй роднай мясцовасці. Бо калі сустрэча адбываюцца ў тваім горадзе, ты ўсё роўна на штосьці адрываешся – на вучобу, працу і г.д. Але калі даводзіцца выязджаць некуды, ты забываешся пра ўсе свае справы і цалкам аддаеш сябе таму, што адбываецца: супольнай малітве, кантакту з людзьмі і г.д.*



***Віталій Снапко***
*Парафія Унебаўзяцця НПМ, Жалудок*

*Больш за ўсё мне запомнілася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту – як для мяне, самая важная частка ДДМ. Спадабался катэхеза на тэму чысціні ў жыцці святара, якую прамовіў кс. Валерый Быкоўскі. Кс. Валерый вельмі файна і зразумела ўсё растлумачыў. Запалі ў душу яго́ныя словы: "Калі святар дае зарок бясшлюбнасці – не можа мець жонкі і дзяцей, – ён адначасова дае зарок нараджаць новых людзей для жыцця вечнага, жыцця з Богам".*

# Запрашаем да ўдзелу ў Парафіядзе!

**22–25 чэрвеня адбудзецца VII Парафіяда дзяцей і моладзі Гродзенскай дыяцэзіі. Дэвіз сёлетняй парафіяды – “Навярні нас, Пане, і да Цябе вернемся” (Пл 5, 21).**

Парафіяда – праект, заснаваны на старажытнагрэчаскай трыядзе “Святыня – Тэатр – Стадыён”. Парафіяда пройдзе ў парафіях Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы) і Найсвяцейшага Адкупіцеля (Гродна-Дзевятоўка), а таксама на стадыёне ЦСК “Нёман”. Арганізатары забяспечваюць удзельнікам харчаванне і пражыванне, выхаваўча-рэлігійную, культурную і спартыўную праграму.

Элемент “Святыня” ўключае біблійны конкурс, конкурс рэлігійнай песні „Sacro Song”.

Элемент “Тэатр” – конкурс малюнка, конкурс “Музыка – маё жыццё”, конкурс ведаў па гісторыі і жыцці Касцёла, конкурс малых тэатральных форм.

Элемент “Стадыён” – бег 60 м, бег 100 м, бег 800 м, бег 1000 м, бег 1500 м, скокі ў даўжыню з разбегу, кіданне мяча, бадмінтон, настольны тэніс, шашкі, валейбол, футбол.

**Да ўдзелу запрашаюцца дзеці і моладзь з усёй Беларусі. Максімальная колькасць удзельнікаў ад адной парафіі – 15 чалавек + 1 апякун. Узрост удзельнікаў – ад 11 да 19 гадоў, хлопцы і дзяўчаты:**

**Катэгорыя „A”:** *год нараджэння 2002–2004;*
**Катэгорыя „B”:** *год нараджэння 1999–2001;*
**Катэгорыя „C”:** *год нараджэння 1996–1998.*

***Кошт удзелу – 20 000 беларускіх рублёў.***

**Заяўкі аб удзеле можна дасылаць да 1 чэрвеня 2015 г.** *(спіс удзельнікаў, запоўнены ў электроннай форме па-беларуску)* **на электронны адрас** a-malafei@mail.ru.
**Кантактныя тэлефоны:** (+37533) 624-35-22, (+37529) 319-54-65 **– кс. Артур.**

## VII Парафіяда дзяцей і моладзі Гродзенскай дыяцэзіі

*22–25 чэрвеня 2015 года, г. Гродна*

### 22.06.2015 *(Святыня)*

**13.00** – прыезд груп і рэгістрацыя *(пар. Гродна-Паўднёвы);*
**16.40** – падрыхтоўка да св. Імшы *(прыгатаванне літургіі спеваў, магчымасць прыступіць да сакраманту паяднання, пасля св. Камуніі чэрвеньскае набажэнства);*
**17.00** – св. Імша *(праводзіць Я. Э. ксёндз біскуп Юзаф Станеўскі)*, урачыстае адкрыццё Парафіяды;
**18.30** – засяленне *(пар. Гродна-Паўднёвы, пар. Гродна-Вішнявец);*
**19.45** – конкурс малюнка;
**19.45** – конкурс шашкі *(кваліфікацыя, хлопцы і дзяўчаты кат. A і B);*
**20.00** – сустрэча апекуноў у касцёле;
**21.00** – вячэрнія малітвы;
**21.30** – адпачынак.

### 23.06.2015 *(Святыня – Стадыён)*

**7.00** – сняданак;
**7.45** – ранішнія малітвы;
**8.00** – св. Імша *(праводзіць Я. Э. ксёндз біскуп Юрый Касабуцкі);*
**9.00** – выезд на гарадскі цэнтральны стадыён;
**9.40** – **урачысты пачатак спартыўных конкурсаў;**
**10.00–14.00** – футбол *(хлопцы кат. A, B, C);*
**10.00–11.00** – скачкі ў даўжыню *(хлопцы і дзяўчаты кат. A);*
**11.00–12.00** – скачкі ў даўжыню *(хлопцы і дзяўчаты кат. B);*
**12.00–13.00** – скачкі ў даўжыню *(хлопцы і дзяўчаты кат. C);*
**10.00–11.30** – бадмінтон *(дзяўчаты кат. B)*, настольны тэніс *(дзяўчаты кат. A, C);*
**10.00–11.30** – шашкі *(дзяўчаты кат. B);*
**11.30–13.00** – бадмінтон *(дзяўчаты кат. A, C)*, настольны тэніс *(дзяўчаты кат. B);*
**11.30–13.00** – шашкі *(дзяўчаты кат. A, C);*
**12.30–13.00** – кіданне мяча *(хлопцы кат. C);*
**13.00–13.30** – кіданне мяча *(хлопцы кат. A);*
**13.30–14.00** – кіданне мяча *(хлопцы кат. B);*
**14.00–15.00** – абед;
**15.00–16.00** – кіданне мяча *(дзяўчаты кат. A, B, C);*
**15.00–18.00** – валейбол *(дзяўчаты кат. A, B, C);*
**15.00–16.30** – шашкі *(хлопцы кат. B);*
**15.00–16.30** – бадмінтон *(хлопцы кат. A, C);*
**15.00–16.30** – настольны тэніс *(хлопцы кат. B);*
**16.30–18.00** – шашкі *(хлопцы кат. A, C);*
**16.30–18.00** – настольны тэніс *(хлопцы кат. A, C);*
**16.30–18.00** – бадмінтон *(хлопцы кат. B);*
**16.00–16.30** – бег 60 метраў *(хлопцы кат. A, дзяўчаты кат. A, B);*
**16.30–17.15** – бег 100 метраў *(хлопцы кат. B, C, дзяўчаты кат. C);*
**17.15–17.30** – бег 800 метраў *(хлопцы і дзяўчаты кат. A);*
**17.30–17.45** – бег 1000 метраў *(хлопцы і дзяўчаты кат. B);*
**17.45–18.00** – бег 1000 метраў *(дзяўчаты кат. C);*
**18.00** – бег 1500 метраў *(хлопцы кат. C);*
**18.30** – **узнагароджванне пераможцаў некаторых конкурсаў;**
**19.30** – вячэра;
**20.30** – выезд у пар. Гродна-Паўднёвы;
**21.00** – вячэрнія малітвы;
**21.20–22.00** – гульні і забавы.

### 24.06.2015 *(Святыня – Тэатр)*

**7.00** – сняданак;
**7.45** – ранішнія малітвы;
**8.00** – выезд аўтобусамі ў пар. Гродна-Дзевятоўка;
**9.00** – св. Імша;
**10.00** – конкурс ведаў з жыцця і гісторыі Касцёла;
**11.00** – конкурс “Музыка маім жыццём”;
**13.00** – абед;
**14.15** – біблійны конкурс;
**15.00** – конкурс “Sacro Song”;
**17.00** – конкурс малых тэатральных форм;
**19.00** – вячэра;
**20.00** – сюрпрыз; узнагароджванне пераможцаў некаторых конкурсаў;
**21.40** – вячэрнія малітвы;
**22.00** – выезд на начлег.

### 25.06.2015 *(Святыня)*

**7.30** – сняданак;
**8.45** – ранішнія малітвы;
**9.00** – св. Імша *(праводзіць Я. Э. ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч);*
**10.30** – уручэнне ўзнагарод;
**11.30** – **супольны пачастунак і заканчэнне Парафіяды.**

## Лісты чытачоў

*У одной поэтессы спросили, что она сейчас пишет, а в ответ услышали: «Пока ничего, душа спит». Впервые услышав эти слова, не каждый поймёт, что они значат.*

*В центре города Дятлово, что в Гродненской области, находится историческая ценность – костёл Успения Пресвятой Девы Марии. Для некоторых это просто архитектурное строение, но для большинства – святое место, место встречи с Господом, место встречи с пастырем – ксендзом Здиславом Пикула. Только благодаря ему начинаешь понимать, что есть работа, а есть служение, полная отдача себя людям и Богу. Наш пастырь (именно Наш) во время проповеди раскрывает людям своё сердце, говорит так, что начинаешь по другому оценивать себя, свою жизнь, окружающих, а главное – жизнь и смерть Сына Божьего. Каждая служба в храме – это новое понимание старых истин, глубокое проникновение в человеческие судьбы, желание помочь избавиться от всего плохого, поиски настоящего счастья и покоя.*

*Каждое слово священника наполнено любовью, добротой и искренностью. Вот почему люди идут в храм со своими проблемами, ведь не всегда можешь высказать сокровенное, личное даже близкому другу, а здесь ты знаешь, что тебя не осудят, не расскажут другим, а наоборот, посоветуют, научат и даже пожалеют. А если человек умеет жалеть, значит он умеет любить. Наш ксёндз Здислав умеет любить, потому что его душа не спит, а постоянно трудится и страдает за нас, чтобы у каждого человека проснулась своя душа и стала чистой и светлой, как улыбка незапятнанного ребёнка.*

***Хочется пожелать ксендзу Здиславу доброго здоровья и Божьего благословения.***

***Прихожане костёла Успения Пресвятой Девы Марии, г. Дятлово***

## З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ




### Працягваецца духоўнае ўсынаўленне выпускнікоў

***Ужо чацвёрты раз кракаўскія айцы, браты і клерыкі з ордэна піяраў праводзяць акцыю духоўнага ўсынаўлення выпускнікоў. У мінулым годзе духоўную апеку атрымалі амаль 6 тысяч чалавек.***

*“У час выпускных экзаменаў, ад першага дня экзаменаў да апошняга, мы штодзённа сустракаемся ў капліцы а 15-й гадзіне, адгаворваем Вяночак да Божай міласэрнасці, молімся аб добрым выбары, поспеху, святле Святога Духа, а таксама запрашаем усіх выпускнікоў, якія хацелі б быць усыноўлены”, – сказаў а. Тамаш Абрамовіч SchP.*




### Гадавіна кананізацыі Яна Паўла II і Яна XXIII

***Эўхарыстыя падзякі за дар кананізацыі вялікіх Папаў была цэлебравана ў базіліцы св. Пятра ў Ватыкане.***

*Ян Павел II быў абвешчаны святым праз 9 гадоў пасля смерці. Кананізацыю ў Нядзелю Божай Міласэрнасці 27 красавіка 2014 г. здзейсніў Святы Айцец Францішак.*

*“Гэтая падзея, што адбылася год таму, вельмі важная для ўсяго Касцёла і ўсё яшчэ прыносіць свой плён”, – кажа кс. праф. Ян Махняк, кіраўнік кафедры духоўнасці Універсітэта Яна Паўла II у Кракаве.*

*“Папа Ян Павел II быў Папам сямей. Менавіта гэта надзвычай важна – звярнуць увагу на сям’ю, якая з’яўляецца месцам прыходу ў свет чалавека, якая ў супрацоўніцтве з Богам перадае жыццё. Дзякуючы Пану за Святога Айца Яна Паўла II, мы павінны таксама маліцца за нашыя сем’і”, – адзначыў кс. праф. Махняк.*

*Варта таксама адзначыць, што Сейм Польшчы ўстанавіў 2015 год Годам св. Яна Паўла II.*




### У Ізраілі паказалі старажытную копію Дзесяці Запаведзяў

***Скрутак узростам 2000 гадоў з калекцыі самых старажытных у свеце біблейскіх рукапісаў быў знойдзены ў гэтак званай Кумранскай бібліятэцы, таксама вядомай як Скруткі Мёртвага мора.***

*Гэты дакумент ніколі раней не паказваўся шырокай грамадскасці, за выключэннем вузкаспецыялізаваных выстаў за мяжой.*

*Рукапіс настолькі далікатны, што будзе прадстаўлены на выставе ў Музеі Ізраіля ў Іерусаліме толькі на працягу двух тыдняў, перш чым будзе перанесены ў бяспечнае сховішча, абсталяванае сістэмай клімат-кантролю.*

***Кінга Красіцкая***

## Дзень засяроджання святароў прайшоў у Гродне

*Падчас сустрэчы святары асаблівым чынам маліліся за ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча, які 3 мая адзначаў дзень сваіх імянін.*



На пачатку святары сабраліся ў семінарыйнай капліцы на канферэнцыі на тэму “Дынамізм духоўнага жыцця святара”, якую прамовіў кс. Тадэвуш Крыштопік, духоўны айцец Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

Падчас канферэнцыі святар падкрэсліў сталую патрэбу духоўнага развіцця ў жыцці кожнага святара. Пасля адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Святая Імша, якую ўзначаліў кс. біскуп Аляксандр Кашкевіч, адбылася ў пабернардынскім касцёле.

Слова Божае да прысутных ксяндзоў скіраваў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, які звярнуў асаблівую ўвагу на ролю Марыі, Маці Божай, у жыцці кожнага святара, якая служыць прыкладам вернасці Езусу і святарскаму пакліканню.

## У Іўі маліліся за дзяцей і пажарнікаў

*Набажэнствы для маленькіх парафіян з іх мамамі і для пажарнікаў сталі ўжо традыцыйнымі ў парафіі святых апосталаў Пятра і Паўла.*



У гэтым годзе св. Імша за дзяцей адбылася 2 мая. Маленькім парафіянам і іх матулям было ўдзелена спецыяльнае блаславенне. Прысутным таксама былі падораны медальёны з выявaю Маці Божай.

На наступны дзень, 3 мая, аб заступніцтве святога апекуна, св. Фларыяна, прасілі прадстаўнікі раённай службы Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Традыцыя маліцца да св. Фларыяна існуе ў парафіі ўжо 18 гадоў, і вясновa-летні сезон, які, магчыма, найбольш небяспечны ў плане пажараў і іншых надзвычайных сітуацый, супрацоўнікі распачынаюць у малітве і даверы Богу.

## Да Маці Божай Гудагайскай

*Група каталіцкіх скаўтаў здзейсніла нацыянальную вандроўку па маршруце Солы – Гудагай у санктуарый Маці Божай Гудагайскай.*



У пілігрымцы-вандроўцы ўдзельнічалі дарослыя скаўты ўсіх парафіяльных груп Беларусі – з Барысава, Іўянца, Мінска, Гродна, Гомеля і Віцебска, а таксама госці. Група хлопцаў складалася з больш чым 30 чалавек, прыкладна столькі ж было і дзяўчат. У дарозе скаўты спявалі, маліліся, разважалі на духоўныя тэмы. Кожны дзень удзельнічалі ў св. Імшы.

Духоўнай тэмай падарожжа сталі словы Езуса Хрыста: “Я ёсць Шлях, Праўда і Жыццё”. Завяршылася падарожжа трохкіламетровым Шляхам святла з паходнямі на начным полі і лесе, дзе размешчана Гудагайская кальварыя, і св. Імшой у санктуарыі Маці Божай Гудагайскай, дзе кожны скаўт склаў свае інтэнцыі, з якімі ішоў у гэтую вандроўку.

## Як захаваць веру і хрысціянскія каштоўнасці ў сужэнстве

*10 мая ў Гродне прайшоў сімпозіум “Любоў – наша пакліканне. Сям’я, якая жыве ў паўнаце”, арганізаваны Радай па справах сям’і пры ККББ. Сімпозіум адбыўся ў межах падрыхтоўкі да Сусветнай сустрэчы сем’яў у Філадэльфіі, якая пройдзе 22–27 верасня.*



Сімпозіум пачаўся прэзентацыяй катэхез да Сусветнай сустрэчы сем’яў, падрыхтаваных Папскай радай па справах сям’і і архідыяцэзіяй Філадэльфіі. Кніга змяшчае 10 катэхез і служыць падрыхтоўкай да Сусветнай сустрэчы сем’яў. Затым кс. д-р Веслаў Блашчак прадставіў даклад на тэму “Любоў – гэта скарб, схаваны ў гліняным посудзе”. Карысным для ўдзельнікаў было сведчанне сужэнцаў Роберта і Марыі, якія на прыкладзе свайго жыцця паказалі, як захаваць веру і хрысціянскія каштоўнасці ў сужэнстве.

Сімпозіум наведаў таксама біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерарх звярнуўся са словам да ўдзельнікаў, падкрэсліўшы важнасць сям’і ў сучасным грамадстве.

На заканчэнне прысутныя мелі магчымасць прыняць удзел у майстэрнях, мэтай якіх было навучанне дыялогу ў сужэнстве. Сімпозіум завяршыўся святой Імшой.

## АНОНСЫ

### Асвячэнне крыжа і зямлі пад будаўніцтва касцёла

**24 мая ў гродзенскім мікрараёне Альшанка кс. бп Аляксандр Кашкевіч асвеціць крыж і зямлю пад будаўніцтва новага касцёла (на скрыжаванні вуліц Багушэвіча і Караткевіча побач з лесам на ўскраіне Альшанкі).**

*Пачатак у 15.00. Запрашаюцца ўсе жадаючыя.*

### Запрашаем на ўрачыстасць

**23 мая 2015 г. у касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў г. Дзятлава (пл. 17 Верасня) пройдзе ўрачыстасць Марыі Успамогі Хрысціян.**

**Праграма:**

10.00 – рэгістрацыя ўдзельнікаў;
11.00 – Эўхарыстыя. Галоўны цэлебрант – бп Юзаф Станеўскі, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі;
12.20 – урачыстая працэсія з фігурай Марыі Успамогі Хрысціян і ўстанаўленне памятнай стэлы;
13.00 – супольны абед;
14.00 – канцэрт у гонар Марыі Успамогі Хрысціян з удзелам гурта “Небасхіл”;
16.00 – падвядзенне вынікаў конкурсу “Верш для Дона Боско”;
16.15 – заключнае слова рэгіянальнага настаяцеля Каталіцкай місіі “Таварыства св. Францішка Сальскага” кс. Віктара Гайдукевіча SDB з блаславеннем Марыі Успамогі Хрысціян.

*Сардэчна запрашаем да ўдзелу ва ўрачыстасці!*

***Паведаміць аб удзеле неабходна да 20 мая па нумары: (+37529) 283-34-37 – кс. Здзіслаў Пікула.***

### Запрашаем у І пілігрымку Ліда – Будслаў

**З 25 чэрвеня па 4 ліпеня 2015 г. будзе праходзіць першая пілігрымка Ліда – Будслаў (240 км). Усіх сардэчна запрашаем!**

**Праграма:**

1 дзень – **25 чэрвеня,** *чацвер (27.3 км)*: Ліда – Першамайск – Бердаўка – Ліпнішкі;
2 дзень – **26 чэрвеня,** *пятніца (29.3 км)*: Ліпнішкі – Іўе – Юрацішкі;
3 дзень – **27 чэрвеня,** *субота (25.5 км)*: Юрацішкі – Вішнева;
4 дзень – **28 чэрвеня,** *нядзеля (30.5 км)*: Вішнева – Валожын – Кібуці;
5 дзень – **29 чэрвеня,** *панядзелак (31.4 км)*: Кібуці – Маладзечна;
6 дзень – **30 чэрвеня,** *аўторак (34.8 км)*: Маладзечна – Любань;
7 дзень – **1 ліпеня,** *серада (25.9 км)*: Любань – Касцяневічы;
8 дзень – **2 ліпеня,** *чацвер (27.2 км)*: Касцяневічы – Ваўкалатка;
9 дзень – **3 ліпеня,** *пятніца (8.3 км)*: Ваўкалатка – Будслаў.

***Запісацца ў пілігрымку можна да 15 чэрвеня. Звяртайцеся, калі ласка, па тэлефонах: (+37529) 867-55-16, (+37529) 907-66-21 – кс. Уладзіслаў Сурвіла; (+37533) 321-26-33 – с. Клара.***

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

**У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі, Карпіцкую Святлану Анатольеўну, народжаную 01.12.1980 г. у Мінску,** просім звярнуцца ў суд у Гродне ***(вул. К. Маркса, 4, або па тэлефонах: (80152) 75-64-37, (+37533) 657-54-36).***

Чытачоў, якія ведаюць адрас жыхарства ці нумар тэлефона Карпіцкай Святланы Анатольеўны, просім паведаміць гэтую інфармацыю ў Касцёльны суд.

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *Ці моліцеся Вы ў маі Ларэтанскай літаніяй?*




*Май – гэта месяц, прысвечаны Марыі. У гэты час мы адпраўляем маёвыя набажэнствы каля крыжаў і ў святынях. Мы прапанавалі нашым чытачам адказаць на пытанне, ці моляцца яны Ларэтанскай літаніяй. Інакш кажучы, ці ўдзельнічаюць яны ў маёвых набажэнствах. Рашучая большасць рэспандэнтаў моліцца Літаніяй да Найсвяцейшай Маці. Часцей за ўсё яны робяць гэта ў касцёлах і каля крыжаў, а таксама ў сваіх сем’ях.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Рэзультаты чарговага апытання пацвярджаюць жывы культ Маці Божай на нашых тэрыторыях. Маёвыя набажэнствы збіраюць вернікаў у касцёлах і ля прыдарожных крыжаў.Назіраючы за тымі, хто прыходзіць на маёвае набажэнства ў касцёл, можна заўважыць іх вялікае жаданне аддаць сябе пад апеку Найсвяцейшай Маці. Часцей за ўсё гэта людзі сярэдняга ўзросту і старэйшыя, але я ведаю таксама парафіі, дзе на спецыяльна арганізаваных для іх набажэнствах збіраюцца дзеці і моладзь. Сёння вельмі важна перадаць эстафету Марыйнай набожнасці маладому пакаленню. Заахвочваю ўсіх з даверам маліцца і аддаваць сябе пад апеку Марыі.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**18 мая 1987 г. –** кс. прэлат Казімір Арлоўскі, *проб. Адамавічы;*
**26 мая 1951 г. –** кс. Ян Рудзіньскі, *проб. Адэльск.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

# 12 шагов для настоящего мужчины

*Когда-то один старый священник сказал, что приход сохраняется тогда, когда в нем есть мужчины. В наши дни их становится все меньше и меньше.*

*Кто-то переживает кризис веры и покидает церковную ограду. Кто-то столь увлечен скандалами вокруг католической Церкви, что вместе с водой выплескивает и дитя. И, наконец, есть те, кто продолжает исправно посещать богослужения, участвовать в приходской деятельности, в меру сил и способностей, но при этом по своему мировоззрению и строю жизни католиком уже не является.*

***Что же делать настоящему мужчине, сильному, верному и честному, как рыцарю Круглого стола?***

## Шаг 1. Честно ответь, почему ты считаешь Иисуса Царем, которому вручаешь свою жизнь

Когда нас спрашивают, за что мы любим свою семью, близких и друзей, каждый может назвать целый список из радующих его черт характера и совместно пережитых ярких моментов. Но стоит заговорить о Боге, об Иисусе Христе, как мы замолкаем. Для подавляющего большинства мужчин Иисус – это некая всемогущая абстракция. Пора честно встать перед Ним и посмотреть Ему в глаза.

Если мы не встретимся лицом к лицу с Его величием, то наш рост в вере будет подобен чахлому растению, пробивающему асфальт. Настоящий мужчина должен преклонить колени перед своим Царем, увидеть новые индивидуальные черты Его величия и власти, чтобы потом подобно рыцарю древности свидетельствовать о своем Господине.

## Шаг 2. Стремись стать святым

Знаете ли вы, что в раю нет хороших или плохих? Там обитают только святые. Святость – это задача для настоящего мужчины. Она требует максимальной ответственности буквально на каждом шагу. Все! Пора выходить из баров, отказываться от бессмысленных шатаний по интернету! Надо делать первый шаг навстречу святости. Помните, какими были первые слова Иисуса? «Покайтесь!» Изменитесь, обернитесь. Настало время признать свою духовную нищету перед вашим Царем и смиренно попросить Его открыть вам горизонты новой жизни. Стремление к святости меняет мир!

## Шаг 3. Приступай к таинству примирения хотя бы раз в месяц

Церковь учит нас, что приступать к исповеди нужно не реже раза в год. Тем не менее, все мы знаем, что если до конца быть честными перед самими собой, это слишком редко. Сравните свою жизнь с 10 заповедями и спросите себя, во всем ли вы соответствуете тому, что начертано для вас на Скрижалях Завета?

Пусть исповедь раз в месяц войдет в привычку. Хотя, если есть ощущение, что что-то отягощает совесть (выпил лишку и побуянил или не мог оторвать взгляд от порножурнала), стоит нарушить график и приступить к таинству примирения. Регулярная и частая исповедь наполняет жизнь благодатью. А она, в свою очередь, дает мужчине необыкновенную внутреннюю силу.

## Шаг 4. Молись каждый день не менее 15 минут

Опросы показали, что только треть мужчин-католиков ежедневно молится. И можно с большой долей уверенности предположить, что значительная их часть – священники, монахи или семинаристы. Но как узнать Иисуса, если вообще с Ним не общаться? Что изменят 15 минут в вашем напряженном графике? Ничего! И очень многое! Каждый день у вас будет возможность встречаться для очень личного разговора с Иисусом, Царем, волю которого вы решили исполнять.

## Шаг 5. Открой для себя всю крутизну участия в Мессе

Месса – это источник и вершина жизни католика. Но большинство мужчин откровенно скучают во время Мессы. И все потому, что они плохо понимают, что в самом строе богослужения скрывается призыв к ним, настоящим мужчинам, без страха и упрека. Стоит потратить некое количество сил и времени, чтобы понять, что же на самом деле происходит, когда священник стоит за алтарем.

Только настоящий мужчина может с мужеством принять то, что перед ним разворачивается кровавая драма распятия и смерти его Царя. Только невежество и скука, недостойные мужчины, могут помешать ему увидеть всю силу Евхаристии и передать смысл совершаемой Жертвы другим.

## Шаг 6. Воскресная Месса +1

Не каждый католик посещает церковь во все воскресенья, а что уж говорить о праздниках. А ведь это только и исключительно вопрос дисциплины. Вам предстоит предстать перед Царем во время брачного пира. Можете ли вы отказаться? Есть ли у вас сколь-нибудь благовидный предлог?

Месса каждое воскресенье – это мощное средство самовоспитания. Стоит увеличить нагрузку, добавив еще одно богослужение в будний день или участие в адорации. Это сделает вас ближе к Христу, научит большему смирению и, вы удивитесь, наполнит жизнь дополнительным временем и силами для нужных и добрых дел.

***Источник: tauspb***

● працяг у наступным нумары







***Что стало с душой Иисуса после Воскресения?***

***Поскольку Иисус Христос – истинный Бог и истинный Человек, у Него должна быть человеческая душа.***

*Согласно Катехизису католической Церкви, разъясняющему основные понятия нашей веры, после Воскресения подлинное реальное тело Иисуса Христа обладает новыми свойствами прославленной плоти (645). Прославленное означает, в частности, «духовное», о чём пишет святой апостол Павел в 1-ом Послании к Коринфянам: «Сеется тело душевное, восстает тело духовное» (1 Кор 15, 44). Иисус уже не находится во власти пространства и времени, но может присутствовать где, как и когда Он хочет, ибо Его человеческую природу больше нельзя удержать на земле, она принадлежит уже только Божественному Царству Отца – в то время как земные реалии нуждаются в пространстве и расположены во времени.*

*Человечность Иисуса Христа (тело и душа) через Воскресение «принадлежит уже только Божественному Царству Отца» (645), то есть она пребывает в Боге, как сам Христос сказал, явившись утром Пасхи Магдалине: «Иди к братьям Моим и скажи им: восхожу к Отцу Моему и Отцу вашему, и к Богу Моему и Богу вашему» (Ин 20, 17). Поэтому апостол Павел называет Христа человеком «небесным».*

*Человечность Иисуса вознаграждена пребыванием у Бога, то есть в Раю. В Послании к Евреям читаем: «За претерпение смерти увенчан славою и честью Иисус, который не много был унижен пред Ангелами, дабы Ему, по благодати Божией, вкусить смерть за всех» (Евр 2, 9). Святой Павел говорит также о власти, дарованной Иисусу по причине Его уничижения: «Смирил Себя, быв послушным даже до смерти, и смерти крестной. Посему и Бог превознес Его и дал Ему имя выше всякого имени, дабы пред именем Иисуса преклонилось всякое колено небесных, земных и преисподних» (Фил 2, 8–10). Отец возвысил Иисуса, посадив Его одесную Себя, то есть наделив Его человечность абсолютной властью над миром.*

***Радио Ватикана***



ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ

# Вернікі Альшанкі і Фабрычнага развіталіся з капліцай

11 мая ў старой капліцы, каля якой цягам амаль 20 гадоў мясцовыя вернікі збіраліся на малітве, ружанцовых і маёвых набажэнствах, працэсійна праводзілі памерлых, была адпраўлена апошняя св. Імша. Невялікая святыня як гістарычны для парафіі аб'ект будзе перанесена на пляц, дзе збудуюць новы касцёл для парафіі Святога Духа.

Таксама падчас набажэнства кс. Павел Салабуда, пробашч парафіі, уручыў ліст з блаславеннем ад Святога Айца для Юрыя Багушэвіча, дзякуючы намаганням якога была пабудавана капліца.







# Візіт

*Дарагі наш Маленькі Сябар!*
*Ты, хіба, ведаеш, што малітва з'яўляецца размовай з Богам. Яна не павінна абмяжоўвацца да адгаворвання пацераў і ўдзелу ў св. Імшы ў нядзелю і святы. Сапраўдная малітва – гэта таксама штосьці большае, чым пазіранне на абразы і банальнае паўтарэнне завучаных формул. Жыццё хрысціяніна павінна быць напоўнена Богам, мы павінны штодзённа размаўляць з Ім як з Кімсьці, Хто нас вельмі любіць і гатовы выслухаць у любую хвіліну.*
*Прапануем Табе, наш Чытач, кароткі прыклад вельмі простых адносін з Панам. Задумайся, і, можа быць, Ты знойдзеш свой асаблівы, ні на чый не падобны спосаб камунікаваць з Тваім найлепшым Сябрам.*

***Рэдакцыя***

Штодзённа апоўдні пэўны малады чалавек з'яўляўся ля дзвярэй касцёла і праз некалькі хвілін адыходзіў. Ён насіў кашулю ў клетку і падзёртыя джынсы, як і ўсе хлопцы яго ўзросту. У руках яго была папяровая торбачка з булкамі на абед.

Пробашч, трохі недаверлівы, спытаўся ў яго некалі, навошта ён сюды прыходзіць. Вядома, сёння ёсць людзі, якія абкрадваюць таксама касцёлы.

– Я прыходжу памаліцца, – адказаў хлопец.

– Памаліцца? Як ты можаш маліцца так хутка?

– Ох... Я штодзённа з'яўляюся ў гэтым касцёле апоўдні і кажу толькі: "Езу, прыйшоў Ясь", а потым адыходжу. Гэта маленькая малітва, але я ўпэўнены, што Ён слухае.

Праз некалькі дзён у выніку няшчаснага выпадку на працы хлопца прывезлі ў шпіталь з вельмі цяжкімі пераломамі. Яго паклалі разам з іншымі хворымі. Прыбыццё хлопца змяніла цэлы аддзел.

За некалькі дзён яго пакой стаў месцам сустрэчы пацыентаў з усяго калідора.

Маладыя і старэйшыя сустракаліся пры яго ложку, а ў яго была ўсмешка і слова падтрымкі для кожнага з іх. Прыйшоў наведаць хлопца таксама і пробашч, які разам з медсястрой стаў каля яго ложка.



– Мне сказалі, што ты ўвесь скалечаны, але, нягледзячы на гэта, усіх падбадзёрваеш. Як у цябе гэта атрымліваецца?

– Гэта дзякуючы Камусьці, Хто прыходзіць наведаць мяне апоўдні.

Медсястра перарвала яго:

– Сюды ніхто не прыходзіць апоўдні, гэта не час для наведванняў.

– Так, так! Ён прыходзіць сюды штодзённа і, становячыся ў дзвярах, кажа: "Ясь, гэта Я, Езус".

А потым адыходзіць...



# Ад шчырага сэрца

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу з нагоды чарговай гадавіны біскупскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем поспехаў у пастарскай паслузе, нястомных ласкаў ад усемагутнага Бога, святасці ў жыцці і добрых людзей побач. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а Маці Божая нястомна спадарожнічае Вам на жыццёвым шляху.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца перасылаем пажаданні. Няхай у здароўі і радасці праходзяць гады жыцця, Святы Дух няхай дапамагае выконваць душпастарскую паслугу і адорвае Вас сваімі дарамі, Найсвяцейшая Маці няхай апекуецца кожны дзень, а добры Бог няспынна благаслаўляе.

*Вернікі з в. Вінцукі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Мікалаю Ціхановічу з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, благаслаўляе Вас у складанай і адказнай святарскай паслузе, а Марыя – Маці святароў – ахінае Вас мацярынскім плашчом і дапамагае заўсёды і ўсюды.

*З малітвай і пашанай III Ордэн св. Францішка з Вялікіх Эйсмантаў і Кола жывога Ружанца з Вялікіх Ядкевічаў*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу з нагоды 10-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, Божага благаслаўлення і добразычлівых людзей побач. Няхай Святы Дух асвятляе Твой шлях на працягу ўсіх гадоў святарскай паслугі, а Маці Божая дадае сіл, цярплівасці і стойкасці на выбраным шляху. Няхай кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць Табе радасць і задавальненне.

*З вялікай павагай родныя*

Дарагому Ксяндзу Паўлу Эйсманту з нагоды 2-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, сіл, радасці, добразычлівых людзей побач, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Твой св. Заступнік абараняе Цябе ў розных жыццёвых сітуацыях і дапамагае ў душпастарскай працы. Няхай Маці Божая нястомна Табой апекуецца, а Божы Провід чувае над Табой.

*Бацькі і брат з сям'ёй*

Паважанаму Ксяндзу Міхалу Васількевічу з нагоды надыходзячага Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя на доўгія гады, нястомнай радасці, поспехаў у душпастарскай паслузе, сіл для змагання з выклікамі штодзённасці, зычлівых і добрых людзей побач, а таксама ўсяго, што Вам неабходна для шчасця. Ад усяго сэрца дзякуем за дабрыню, адкрытасць на людзей, мудрыя парады і клопат пра нас і касцёл.

*Парафіяне з касц. св. Альжбеты Венгерскай і Божай Міласэрнасці ў Падароску*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу з нагоды Імянін мноства пажаданняў радасці, здароўя, аптымізму, Божага благаслаўлення на доўгія гады

*складаюць "Маргарытка" і парафіяне з Беняконяў*

Паважанаму Ксяндзу Станіславу Лабану з нагоды Імянін выпрошваем праз заступніцтва св. Станіслава багатага плёну ў працы, здароўя на доўгія гады, пагодных, ясных дзён, Божага благаслаўлення і апекі Маці Божай.

*"Маргарытка", Колы жывога Ружанца і парафіяне з Беняконяў*

Дарагому Ксяндзу Мікалаю Ціхановічу з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай здароўе не слабее, радасць і супакой заўсёды госцяць у сэрцы, з твару не сыходзіць усмешка, а душа будзе адкрыта на Божую ласку і ўсе Яго дары. Нахай святарская праца прыносіць шчодры плён, а навокал будуць добразычлівыя людзі.

*Мама, сястра і брат разам з дзецьмі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу з нагоды 10-годдзя душпастарскай паслугі ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, радасці, нязгаснага запалу ў шчырай і адданай паслузе Богу і людзям, мноства радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на працягу ўсяго жыцця.

*Сем'і Шмыга, Мрочка і Месячык са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу з нагоды 10-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Маці Божая ахінае нястомнай апекай, а міласэрны Бог узнагароджвае любоўю і святлом, каб Твой шлях быў шчаслівым і благаслаўлёным, а кожны дзень – ясным, цёплым і радасным. Моцнага здароўя, цярплівасці і мудрасці ў паслузе на карысць Богу.

*Хросная і сям'я Кімсо*

Паважанаму Ксяндзу Яну Гавецкаму з нагоды 25-годдзя святарскіх пасвячэнняў жадаем сапраўды духоўнага перажывання Юбілею. Няхай добры Бог адорыць Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем і радасцю. Няхай разам з моцай пераўтварэння хлеба і віна Ён дае Вам моц перамянення людскіх сэрцаў і застаецца ў Вашых святарскіх далонях. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды Вамі апекуецца, а Ваша шляхетнае пакліканне прынясе радасць і задавальненне ад выбару такой складанай і адказнай жыццёвай дарогі.

*Хор "Cantate Domino"*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу з нагоды 10-годдзя святарскай паслугі перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады, радасці і цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе, Божай ласкі і няспыннай апекі Панны Марыі на пачэсным шляху служэння Богу і людзям. Жадаем такой моцнай веры як самы вялікі алмаз, такой нязгаснай надзеі, як гарачае летняе сонца, такой вялікай Божай любові, як увесь Сусвет.

*З малітвай бацькі і брат з сям'ёй*

Паважанай Сястры Зоф'і Смятанцы з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады, шчаслівай і плённай працы, апекі святой Заступніцы. Няхай Езус і Марыя благаслаўляюць Вас і напаўняюць Ваша жыццё радасцю і святлом. Шчыра дзякуем за Ваш цудоўны спеў, малітву і працу ў нашай парафіі.

*Вернікі з в. Жамыслаўль*

Паважанаму Ксяндзу Мікалаю Ціхановічу з нагоды Дня нараджэння жадаю ўсіх Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай той агеньчык дабрыні, які зззяе ў Вашым сэрцы, не згасае ніколі. Няхай міласэрны Бог сваёй рукой вядзе Вас вышэй па службовай лесвіцы, а радасць, супакой і шчасце заўсёды будуць у сэрцы.

*З павагай і любоўю першая настаўніца Більмон Алена Рыгораўна*

Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею з нагоды чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў, радасці, моцнай веры, сіл і стойкасці ў любові да Бога і людзей, да якіх Вы пасланыя. Дзякуем Вам за святарскую паслугу і адкрытае сэрца, поўнае дабрыні і зычлівасці. Няхай Маці Божая Вастрабрамская атуляе Вас сваім мацярынскім плашчом і вядзе па дарозе святасці да свайго Сына.

*З павагай і малітвай верныя парафіяне з Аўгустоўка*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Мікалаю Ціхановічу з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем здароўя і шчасця на кожны дзень жыцця. Няхай Найсвяцейшая Маці разам са сваім Сынам заўсёды Вамі апекуюцца і спадарожнічаюць на працягу ўсяго жыцця, каб Вы заўсёды з вялікай радасцю служылі Богу і людзям.
Не знай ніколі смутнай долі,
Цяжкіх жыцця дарог.
Няхай 100 год пражыць дазволіць
У шчасці і здароўі Бог.
Мы ўдзячны Вам за ўсё, наш дарагі Пробашч!

*З павагай і ўдзячнасцю парафіяне і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Урбановічу з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў: моцнага здароўя, аптымізму, радасці, душэўнага супакою, цярплівасці і стойкасці на святарскім шляху. Няхай Маці Божая няспынна Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае сваімі шчодрымі дарамі. Шчасці Божа!

*Касцёльны камітэт з пар. св. Яна Паўла II у Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Мікалаю Ціхановічу з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай усемагутны Бог адорвае Вас сваім благаслаўленнем і шчодрымі ласкамі, Святы Дух спасылае свае дары, Маці Божая нястомна апекуецца, Анёл-ахоўнік чувае над Вамі, а побач будуць добрыя і зычлівыя людзі. Жадаем таксама моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою і радасці на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі.

*Касцёльны камітэт з пар. Вялікія Эйсманты*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2784; тыраж 6600; абём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная